№ 4 (127)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Сакавік 2012 г.

## Вялікая дэмакратычная агульнаеўрапейская рэвалюцыя ХХ стагоддзя і Беларусь



*Герб БНР*

Дзяржаўна-палітычныя пераўтварэнні, што адбыліся ва ўсіх дзяржавах у ХХ ст., для сучаснікаў тых падзей здаваліся мала звязанымі паміж сабой, а для даследчыкаў XXI ст., якія асэнсоўваюць іх з адлегасці часу, ясна вымалёўваюцца іх усеагульная сувязь і мэтанакіраванасць. Пачатак агульнаеўрапейскай дэмакратычнай рэвалюцыі змог прадказаць геніяльны Леў Талстой ужо ў 1909 г. Ён пісаў: "Усёй душой веру ў тое, што мы жывём напярэдадні сусветнага вялікага перавароту ў жыцці людзей, і што ўсякі высілак для хутчэйшага разбурэння таго, што не можа не быць разбурана, і хутчэйшага ажыццяўлення таго, што не можа не быць ажыццёўлена, усякае намаганне, хоць бы самае слабае, садзейнічае наступленню гэтага перавароту". Рэвалюцыйныя падзеі ў Расіі, Аўстра-Венгрыі, Германіі, Ірландыі, Іспаніі, Італіі, Турцыі сведчаць, што ішло змаганне за ўстанаўленне дэмакратыі, за збліжэнне ўсіх еўрапейскіх народаў на аснове супрацоўніцтва, а не вайны. Па сваёй сутнасці дзяржаўна-палітычныя пераўтварэнні ў Еўропе ў ХХ ст. зліліся ў адну Вялікую рэвалюцыю. У выніку яе распаліся ўсе еўрапейскія імперыі і ўтварыліся або аднавілі сваю дзяржаўнасць Албанія, Беларусь, Венгрыя, Ірландыя, Ісландыя, Латвія, Літва, Малдова, Македонія, Польшча, Славакія, Славенія, Украіна, Фінляндыя, Харватыя, Чэхія, Эстонія і іншыя. Свабоду атрымалі таксама былыя калоніі ў Азіі, Афрыцы і Цэнтральнай Амерыцы. Рэвалюцыя прывяла да карэнных змен у сацыяльным, эканамічным і прававым становішчы насельніцтва еўрапейскіх краін.

Разам з тым, у ХХ ст. не раз рабіліся захады па задушэнні дэмакратыі і стварэнні таталітарных дыктатарскіх рэжымаў у Расіі, Італіі, Германіі, Балгарыі, Югаславіі, Венгрыі, Румыніі, Польшчы. Але гэтыя дзеянні супярэчылі галоўнаму гістарычнаму закону грамадскага развіцця чалавецтва, па якому няўмольна ідзе пастаяннае збліжэнне паміж народамі і дзяржавамі, так званая глабалізацыя, пры пашырэнні правоў і свабод як асобных людзей, так і цэлых народаў.

Усе гэтыя падзеі маюць непасрэднае дачыненне да Беларусі як часткі Еўропы. Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух значна ўзмацніўся падчас першай расійскай рэвалюцыі 1905–1907 гг., а затым набыў новую сілу з пачаткам Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г.

***(Пачат. Працяг на стар. 2)***

## Леанід Злотнікаў: Зноў «сарвацца» ў інфляцыю вельмі лёгка



*Леанід Злотнікаў*

Камерцыйныя банкі прапаноўваюць беларусам уклады пад 50 % і нават вышэй, што выклікала сур'ёзны прыток сродкаў ад насельніцтва. Эканаміст Леанід Злотнікаў папярэджвае: у любы момант сітуацыя можа стаць цалкам супрацьлеглая. Адток грошай з банкаў і масавае скупляннe валюты могуць прывесці да чарговага крызісу. "У такой сітуацыі, у якой аказалася краіна, вельмі лёгка "сарвацца" ў інфляцыю, і тады яна будзе прыкладна такая ж, як і летась", – мяркуе эксперт.

"Насельніцтва і спекулянты пачалі актыўна ўкладаць грошы ў дэпазіты, у банках з'явіліся вольныя грошы, якія няма куды ўкласці, – гаворыць Леанід Злотнікаў. – У Беларусі няма такіх эфектыўных праектаў, каб укласці гэтыя грошы і не збанкрутаваць, таму цяпер банкі не ведаюць, куды падзець грошы". Паводле эканаміста, гэтыя сродкі спрабаваў прыцягваць Нацыянальны банк, але ў выніку яшчэ больш эканоміка "напампоўвалася" грашыма.

Каб вырашыць гэтую праблему, галоўны банк краіны зніжае стаўку рэфінансавання, што ў сваю чаргу адбіваецца зніжэннем адсотку, пад які банкі прапаноўваюць уклады.

***(Пач. Зак. на стар. 5)***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# Вялікая дэмакратычная агульнаеўрапейская рэвалюцыя XX стагоддзя і Беларусь




***(Працяг. Пач. на стар. 1)***

25–27 сакавіка 1917 г. у Мінску адбыўся з'езд беларускіх нацыянальных арганізацый, які ўтварыў Беларускі Нацыянальны Камітэт (БНК) з 18 чалавек. Ён стаў каардынацыйным цэнтрам для ўсіх беларускіх дэмакратычных арганізацый. Яго галоўнай задачай стала аб'яднанне ўсіх беларускіх нацыянальных сіл для ўтварэння аўтаноміі ў складзе Расіі.

Летам таго ж года адбыўся другі з'езд беларускіх арганізацый, дзе былі ўтвораны Цэнтральная рада беларускіх арганізацый і яе выканаўчы камітэт. Беларусы-франтавікі ў той жа час на сваім з'ездзе ўтварылі Цэнтральную Беларускую вайсковую раду, якая праводзіла арганізацыйную працу сярод салдат і афіцэраў беларусаў на Заходнім фронце.

У другой палове кастрычніка 1917 г. Цэнтральная рада беларускіх арганізацый і Цэнтральная Беларуская вайсковая рада аб'ядналіся і ўтварылі адзіную Вялікую Беларускую раду (ВБР), якая 27 кастрычніка 1917 г. звярнулася з "Граматай да беларускага народа", у якой усё насельніцтва Беларусі заклікалася захоўваць спакой і згуртавацца "ў адну згодную сям'ю каля Вялікай Беларускай Рады". Выканаўчыя камітэты Вялікай Беларускай рады, Цэнтральнай Беларускай вайсковай рады і Беларускага выканаўчага камітэта Заходняга фронту ў тыя ж дні звярнуліся з адозвай "да ўсяго народу Беларускага", дзе была выкладзена праграма дэмакратычных пераўтварэнняў у краі і не прызнаваўся Кастрычніцкі пераварот у Петраградзе. Для ўтварэння беларускіх органаў улады прапанавалася склікаць Усебеларускі з'езд на 5 снежня 1917 г. у Мінску. Гэтая адозва і выкладзеная ў ёй дэмакратычная праграма поўнасцю адпавядалі мэтам і задачам агульнаеўрапейскай рэвалюцыі і супярэчыла мэтам Кастрычніцкага перавароту, які грунтаваўся на дыктатуры пралетарыяту.

Каб падарваць дзейнасць беларускіх дэмакратычных арганізацый і перахапіць у іх ініцыятыву склікання Усебеларускага з'езда, у Петраградзе ў лістападзе 1917 г. быў утвораны Беларускі абласны камітэт (БАК) пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў, кіруючыя пасады ў якім займалі прадстаўнікі арміі і людзі, што варожа ставіліся да нацыянальнай беларускай дзяржаўнасці. У дэкларацыі, выдадзенай 17 лістапада 1917 г., БАК сцвярджаў: "Мы, сацыялісты, з вераю імкнёмся да светлай будучыні, калі ўсе працоўныя народы аб'яднаюцца ў адзіны сусветны саюз, вакол адной сацыялістычнай культуры, братэрства, роўнасці і свабоды... і ў цесным саюзе паміж сабой мы бачым залог выратавання Расіі, яе федэратыўнай рэспублікі, як магутнай і незалежнай дзяржавы". Гэты зварот сведчыць пра дваякі сэнс дзейнасці БАКа, які хацеў прытрымлівацца дэмакратычнага кірунку еўрапейскай рэвалюцыі і нацыянальнага будаўніцтва беларускай дзяржаўнасці і адначасова імкнуўся захаваць і ратаваць адзінства Расіі. Дзяржаўны пераварот, што адбыўся 25 кастрычніка 1917 г. у Петраградзе, не парушыў напачатку агульнага ходу еўрапейскай рэвалюцыі, бо дзейнасць яго органаў знаходзілася ў агульным рэчышчы еўрапейскай рэвалюцыі. Былі абвешчаны дэкрэты "Аб міры", "Аб зямлі", "Дэкларацыя правоў народаў Расіі" і іншыя дэмакратычныя акты.

У Беларусі склалася іншая сітуацыя. Тут уладу захапілі чужынцы, што прыйшлі да ўлады на Заходнім фронце і ўтварылі Абласны выканаўчы камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту (Аблвыкамзах) пад кіраўніцтвам Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б),

***(Працяг на стар. 3)***

# Вялікая дэмакратычная агульнаеўрапейская рэвалюцыя XX стагоддзя і Беларусь

*(Працяг. Пач. на стар. 1-2)*

дзе кіруючая роля належала А.Мяснікову (Мяснікяну), К.Ландару, М.Калмановічу, В.Кнорыну, якія варожа ставіліся да беларускай дзяржаўнасці і беларускай культуры. Такая пазіцыя бальшавіцкіх лідэраў у Беларусі супярэчыла першым дэкрэтам Савецкай улады, выдадзеным у Петраградзе ў кастрычніку і лістападзе 1917 г.

У снежні 1917 г. беларускія нацыянальныя дэмакратычныя арганізацыі пры ўдзеле Беларускага абласнога камітэта ў Петраградзе, з дазволу Народнага камісарыята па справах нацыянальнасцей РСФСР, якім кіраваў І.В.Сталін, склікалі ў Мінску Усе-беларускі з'езд прадстаўнікоў беларускіх палітычных і грамадскіх арганізацый, земскіх і гарадскіх устаноў, салдацкіх камітэтаў. Усяго на з'ездзе прысутнічалі 1 872 дэлегаты, з іх 1 167 з правам рашаючага голасу, што сведчыць пра шырокае народнае прадстаўніцтва. На з'ездзе былі выбраны яго кіруючыя органы — Рада старэйшын, або Рада з'езда, і меркавалася разгледзець наступныя пытанні: 1) Сучаснае становішча Беларусі; 2) Аўтаномія Беларусі ў складзе федэратыўнай Расіі; 3) Арганізацыя Часовай краёвай улады; 4) Утварэнне Беларускай нацыянальнай арміі; 5) Скліканне краёвага ўстаноўчага сходу Беларусі.

Самыя гарачыя спрэчкі разгарнуліся па пытанні "Арганізацыя Часовай краёвай улады". Прадстаўнікі Вялікай Беларускай рады прапаноўвалі ўтварыць незалежныя беларускія органы ўлады. Прыхільнікі БАКа адстойвалі аўтаномію ў




*Паштовая марка БНР*

складзе Расіі. Большасць з'езда прыняла прапанову БАКа. Усебеларускі з'езд здолеў прыняць 17 снежня першы пункт пастановы аб самавызначэнні Беларусі, у якім было запісана: "Усебеларускі З'езд, у колькасці звыш тысячы чалавек, прадстаўленых сялянствам, салдатамі, рабочымі і ўсімі дэмакратычнымі арганізацыямі цэлага краю, абмеркаваўшы цяжкае становішча ўсёй Расійскай Дэмакратычнай Федэратыўнай Рэспублікі і асабліва крытычны момант для Беларусі, прызнаў неабходным: 1. Замацоўваючы сваё права на самавызначэнне, абвешчанае расійскай рэвалюцыяй, і пацвярджаючы рэспубліканскі дэмакратычны лад у межах Беларускай зямлі, дзеля выратавання роднага краю, і засцерагаючы яго ад падзелу і адрыву ад Расійскай Дэмакратычнай Федэратыўнай Рэспублікі, 1-ы Усебеларускі З'езд пастанаўляе: неадкладна ўтварыць са свайго складу орган краёвай улады ў асобе усебеларускага савета сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў, які часова становіцца на чале кіравання краем, уступаючы ў дзелавыя зносіны з цэнтральнай уладай, адказнаю перад саветам сабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў.

Пастанова Усебеларускага з'езда поўнасцю адпавядала духу і мэтам Лютаўскай і агульнаеўрапейскай рэвалюцыі і не супярэчыла першым дэкрэтам Савецкай улады, але яна супярэчыла інтарэсам Аблвыкамзаха і яго СНК, па загаду якога Усебеларускі з'езд у ноч з 17 на 18 снежня 1917 г. быў разагнаны. Разгон Усебеларускага з'езда быў накіраваны як супраць ідэй самавызначэння Беларусі, так і супраць ідэалаў дэмакратыі і агульнаеўрапейскай рэвалюцыі, спробай затрымаць яе развіццё ў Беларусі.

Актам, накіраваным на стрыманне дэмакратычнага развіцця рэвалюцыі ў Расіі, быў дэкрэт УЦВК ад 7(20) студзеня 1918 г. "Аб роспуску Устаноўчага сходу", таму выступленні на III Усерасійскім з'ездзе Саветаў А.Чарвякова, А.Усціловіч, Т.Грыба са скаргамі на дзеянні СНК Аблвыкамзаха з'ездам былі адхілены, а дзейнасць СНК Заходняй вобласці і фронту прызнана правільнай. З абурэннем пра разгон Усебеларускага з'езда пісала пецярбургская газета М.Горкага "Новая жизнь" ад 12 студзеня (№ 213) пад загалоўкам "Гвалт над беларускім народам".

З разгонам Усебеларускага з'езда дэмакратычны працэс у Беларусі прыпыніўся, але на кароткі час, бо ўжо 19 лютага Аблвыкамзах, ратуючыся ад наступлення нямецкіх войск, выехаў з Мінска, і адзіным прадстаўнічым органам улады застаўся Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда,

*(Працяг на стар. 4)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# Вялікая дэмакратычная агульнаеўрапейская рэвалюцыя XX стагоддзя і Беларусь

*(Працяг. Пач. на стар. 1-3)*

які 21 лютага 1918 г. выдаў Устаўную грамату да народаў Беларусі. Ён жа сфарміраваў урад — Народны Сакратарыят Беларусі на чале з Я.Варонкам. 3 сакавіка 1918 г. савецкі ўрад Расіі падпісаў у Брэст-Літоўску мірны дагавор, паводле якога Расія прызнала большую частку Беларусі нямецкай здабычай і тым самым адмаўлялася ад Беларусі. Ратуючы Беларусь ад нямецкага каланіялізму, Выканаўчы камітэт 9 сакавіка 1918 г. выдаў другую Устаўную грамату да народаў Беларусі. Яна абвяшчала ўтварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі і закладвала аснову дэмакратычнага канстытуцыйнага ладу ў Беларусі, тым самым працягвала развіццё агульнаеўрапейскай рэвалюцыі ў Беларусі. Нямецкія войскі, якія занялі Мінск 23 лютага 1918 г., адразу варожа абышліся з Народным Сакратарыятам Беларусі, абрабавалі яго маёмасць, выкінулі з памяшкання і перашкаджалі яго дзейнасці. Але і ў такіх неспрыяльных умовах дэмакратычнае дзяржаўна-палітычнае будаўніцтва ў Беларусі працягвалася. 18 сакавіка Рада Усебеларускага з’езда была перайменавана ў Раду БНР. 25 сакавіка 1918 г. Рада БНР выдала трэцюю Устаўную грамату, якой Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай і вольнай дзяржавай.

Выданне трэцяй Устаўнай граматы мела важнае значэнне для дэмакратычных пераўтварэнняў унутры дзяржавы і для міжнародных адносін. Беларуская Народная Рэспубліка набывала статус паўнапраўнага суб’екта міжнародна-прававых зносін і была прызнана ўрадамі Украінскай Народнай Рэспублікі і Літвы. У 1919—1920 гг. БНР дэ-юрэ або дэ-факта прызналі таксама Германія, Латвія, Эстонія, Чэхаславакія, Балгарыя, Фінляндыя, Турцыя. У гэтых краінах працавалі беларускія дыпламатычныя і вайсковыя місіі, консульствы і прадстаўніцтвы. 29 жніўня 1918 г. Савет Народных Камісараў РСФСР выдаў дэкрэт “Аб адмове ад дагавораў урада былой Расійскай імперыі з урадамі Германскай і Аўстра-Венгерскай імперый, Каралеўства Прусіі і Баварыі, герцагства Гесена, Ольдэнбурга і Саксен-Мейненгема і горада Любека”, у якім было запісана, што “ўсе дагаворы і акты, якія былі заключаны ўрадамі былой Расійскай імперыі з урадамі каралеўства Прускага і Аўстра-Венгерскай імперыі, што адносяцца да падзелаў Польшчы.., адмяняюцца гэтым дэкрэтам беспаваротна”. Адмена ўсіх актаў аб падзелах Рэчы Паспалітай, што адбыліся ў 1772, 1793 і 1795 гг., азначала адмову Савецкай Расіі ад захопніцкіх “правоў” Расійскай імперыі на землі не толькі Польшчы, але і Беларусі. Тым самым яшчэ раз замацоўвалася права беларускага народа на самавызначэнне і ўтварэнне сваёй дзяржавы, што адпавядала задачам Вялікай еўрапейскай рэвалюцыі, а таксама ідэям У.І.Леніна аб правах нацый на самавызначэнне.



*Першы ўрад БНР - Народны Сакратарыят:* ***(злева направа, сядзяць) Алесь Бурбіс, Іван Серада, Язэп Варонка (старшыня), Васіль Захарка; (стаяць) Аркадзь Смоліч, Пётра Крэчэўскі, Кастусь Езавітаў, Антон Аўсянік, Лявон Заяц***

У кастрычніку 1918 г. савецкі ўрад У.І.Леніна разглядаў магчымасць на пэўных умовах прызнаць дэ-юрэ Беларускую Народную Рэспубліку і заключыць з ёй адпаведны дагавор. З гэтай мэтаю ў Маскву быў запрошаны для перагавораў старшыня ўрада БНР А.Луцкевіч, што само сведчыць аб прызнанні дэ-факта Беларускай Народнай Рэспублікі савецкім урадам. Аднак прыезд А.Луцкевіча ў Маскву зацягнуўся, і калі ён прыехаў у другой дэкадзе

***(Закан. на стар. 5)***

## Вялікая дэмакратычная агульнаеўрапейская рэвалюцыя XX стагоддзя і Беларусь

(Закан. Пач. на стар. 1-4)




лістапада, то палітычная сітуацыя рэзка памянялася. У Германіі адбылася рэвалюцыя, Германія вымушана была капітуляваць, падпісаць перамір'е і пачаць выводзіць свае войскі з Беларусі. УЦВК выдаў 13 лістапада 1918 г. пастанову аб ануляцыі Брэст-Літоўскага дагавора. Таму, як толькі Германія пачала выводзіць свае войскі з Беларусі, сюды ўступіла расійская Чырвоная Армія.

Савецкі ўрад Расіі, адчуваючы агульны кірунак еўрапейскай рэвалюцыі і імкненне беларускага народа ўтварыць сваю дзяржаву, вымушаны быў "згадзіцца з беларускімі таварышамі на ўтварэнне Беларускага савецкага ўрада"...

**Язэп Юхо**

*ЮХО Язэп Аляксандравіч — прафесар кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права БДУ, доктар юрыдычных навук. Адзін з перакладчыкаў і рэдактараў кнігі "Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г." (Мн., 1989). Аўтар манаграфій, падручнікаў і артыкулаў па гісторыі дзяржавы і права Беларусі.*



## НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ АДЗНАЧАЦЬ ДЗЕНЬ ВОЛІ

У большасці дэмакратычных арагнізацый і суполак Магілёва і вобласці пройдуць розныя імпрэзы і вечарыны, прысвечаныя Дню Волі. У іх разам з актывістамі дэмакратычнага руху прымуць удзел гісторыкі, што распавядуць аб падзеях таго далёкага, але надзвычай важкага для гісторыі Беларусі, 1918 года. Таксама сваімі думкамі па актуальных праблемах нацыянальнага Адраджэння падзеляцца сучасныя ўдзельнікі мірнага змагання за незалежнасць краіны і яе дэмакратычнае цывілізаванае развіццё, якія пазналі і пазнаюць за сваю пазыцыю з боку ўладаў самыя разнастайныя



меры пераследу і пакарання. Актывісты ў Магілёве і раёнах наведаюць таксама знакавыя мясціны нацыянальнай незалежніцкай гісторыі і могілкі людзей, што ўвайшлі ва ўдзячны мемарыяльны спіс беларускіх патрыётаў. Дзень Волі ў большасьці дэмакратычных арганізацый і суполак традыцыйна скончыцца сяброўскімі вечарынамі.

**Віктар Войт**

## Леанід Злотнікаў: Зноў «сарвацца» ў інфляцыю вельмі лёгка

(Заканч. Пач. на стар. 1)

"Можа распачацца адток грошай з банкаў – перадусім спекулятыўных грошай. І тады сітуацыя можа перакуліцца, і насельніцтва пачне вызваляцца ад дэпазітаў – забіраць свае грошы і вызваляцца ад беларускіх рублёў. Тады ўзляціць курс валюты", – дадаў эксперт.

Што да магчымага ўзроўню інфляцыі, Леанід Злотнікаў падкрэслівае, што паводле планаў ураду, гэты паказчык дасягне 22 %. "Але была вельмі цікавая заява аднаго з наменнікаў міністра эканомікі – пра тое, што сёлета намінальны заробак вырасце на 70 %, а рэальны – на 5 %. Гэта значыць, што інфляцыя будзе каля 65–70 % нават паводле чаканняў Мінэканомікі", – зазначыў эксперт.

З пачатку года інфляцыя склала 3,5 %.

**belsat.eu**

## "Малая" прэса Магілёўшчыны аднаўляе выхад

Да пачатку сакавіка ў шэрагу раёнаў Магілёўскай вобласці, пераважна на ўсходняй яе частцы, аднавілі выхад маланакладныя незалежныя газеты і перыядычныя інфармацыйныя бюлетэні.

Першыя нумары аднаўленых выданняў пабачылі свет невялікімі накладамі з-за абмежаванасці рэсурсаў, якія грамадскія дэмакратычныя арганізацыі і дэмакратычныя партыйныя суполкі могуць накіроўваць на іх выданне і распаўсюд.

Між тым, як паведамляюць грамадскія актывісты-распаўсюднікі, пасля больш як паўгадовага перапынку ў выхадзе цікавасць людзей да альтэрнатыўных крыніц інфармацыі надзвычай высокай.

Сярод вострых тэм першых нумараў аднаўленых газет – будучыя парламенцкія выбары, сацыяльна-эканамічны стан рэгіёнаў, праблема актыўнай міграцыі беларускай працоўнай сілы ў Расію ды наступствы гэтых працэсаў і г.д.

**Віктар Войт**

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# Былы магілёўскі “мэр” уладкаваўся ў літоўскую фірму

Пры сваім 8-мі гадовым кіраванні горадам Магілёвам Віктар Шорыкаў, вызвалены ад пасады ў 2009 г. літаральна на парозе свайго 60-годдзя, найбольш актыўна дзейнічаў у расійскім напрамку. Магілёў быў літаральна павязаны адміністратыўнымі, дзелавымі і гаспадарчымі сувязямі з расейскімі суседзямі. Даволі часта на фасадзе гарвыканкама ўрачыста вывешваліся рэгіянальныя сцягі расійскіх тэрыторый і гарадоў. Па некалькі разоў на год туды-назад выязджалі прадстаўнічыя дэлегацыі, праходзілі рознага кшталту і ўзроўню паседжанні і канферэнцыі, наладжваліся культурніцкія дэкады, выставы, фуршэты-банкеты…

Але пра нейкія салідныя інвестыцыі з боку расійскіх пабрацімаў у Магілёў, як і наадварот, не надта было і чуваць. Затое пры “мэры” Віктары Шорыкаве у абласным цэнтры з’явіліся “Маскоўскі дворык” і “Тульскі дворык” (а не паспеў рэалізавацца “Екацярынбургскі”, для якога ўжо было і месца выбрана). Гэтымі “дворыкамі” сталі прылеглыя да пешаходнай вуліцы двары праз пэўнае добраўпарадкаванне і адпаведнае афармленне, дарэчы, у значнай ступені – кічавае. Ну, напрыклад, пасярод “Тульскага дворыка”, як не цяжка здагадацца, пастаўлены вялізных размераў (выраблены з дрэвапліты) самавар, усё прызначэнне якога заключаецца ў тым, каб сведчыць, што тут “тульскі дух, тут Тулай пахне”… (прабачаемся перад А.Пушкіным за скажэнне цытаты). “Маскоўскі дворык” вызначаецца, зразумела ж, акцэнтаваннем афарміцельскіх фанерных і размаляваных дэталяў “па матывах Крамля”. І хаця гэтыя мастацкія рашэнні



Віктар Шорыкаў

зацвярджаліся магілёўска-маскоўскімі і магілёўска-тульскімі камісіямі, якія па некалькі разоў на год наведваліся адна да адной, каб разглядаць і зацвярджаць эскізы, апошняе слова тут належыла Віктару Шорыкаву. Сам па сабе гэты кічавы стыль, як многія лічаць у Магілёве, адпавядаў эстэтычнаму густу менавіта самога магілёўскага кіраўніка. Нездарма ж ён адзін час насіўся з ідэяй пабудовы ў цэнтры горада помніка… ніколі не здагаецеся … Міколы Гусоўскага.

Ён жа, праўда, быў актыўным аднаўленцам і рэстаўратарам і Магілёўскай Ратушы, і пабудоўшчыкам пешаходнай вуліцы, вярнуць каторай яе гістарычную назву Вялікай Садовай былы “мэр, які здаецца сапраўды цікавіўся гісторыяй роднага горада, так і не адважыўся, пакінуўшы яе “ленінскай”. Хаця ён жа усталяваў на будынку гарвыканкама і шыкоўную па мастацкім аздабленні мемарыяльную дошку-напамін аб тых гістарычных часах, калі Магілёў быў надзелены правамі і прывелеямі ў адпаведнасці з наданнем яму Магдэбургскага права

*(Пачат. Зак. на стар. 7)*

## Богданкевич рассказал, что приведет к потере суверенитета страны

Наши подлинные интересы – в сохранении суверенитета и национальной валюты, убежден экс-глава Нацбанка Беларуси Станислав Богданкевич. Так он прокомментировал высказывания председателя верхней палаты Национального собрания Анатолия Рубинова.

По мнению Рубинова, небольшие страны, подобные Беларуси, обязательно должны примыкать к какому-либо из центров силы. Исключая союз с Западом, он считает, что для процветания Беларуси мало получать дешевые нефть и газ - нужно перейти на российский рубль.

“Всякий кто хочет отказаться от национальной валюты в пользу России стоит на позиции, что суверенитет, независимость не являются большой ценностью, - говорит Станислав Богданкевич. - Рубинов – сторонник вхождения Беларуси в Россию, поэтому, само собой, он ратует за переход на российский рубль.

- Чем такой переход обернется для Беларуси?

- Эмиссию будет делать Центральный банк России, он же будет определять и процентную политику. Валютную политику, обменные курсы будут определять в Кремле, по сути, в чужом государстве. Экономическая политика будет не наша, а та, которую утвердят в Москве. Это не гибель для народа, но это гибель для суверенной страны. Что же касается наших подлинных интересов, то на сегодняшний день это, безусловно, сохранение суверенитета и сохранение национальной валюты.

***ucpb.org***



# Былы магілёўскі “мэр” уладкаваўся ў літоўскую фірму

*(Закан. Пач. на стар. 6)*

(дарма, што на дошцы даволі доўгі час ніхто не заўважаў памылкі ў даце гэтай выдатнай, 400-гадовай даўніны, падзеі, пакуль мясцовыя гісторыкі і грамадскія актывісты не настоілі на тым, каб памылку нарэшце выправілі)…

Па вызваленні ад пасады, відавочна, для самога Віктара Шорыкава зусім нечаканага (бо літаральна за пару тыдняў да гэтага ён вызначыўся адкрыццём свайго ўласнага блогу на гарвыканкамаўскім сайце, дзе паспеў апублікаваць толькі пару постаў на тэму роздуму пра актуальныя перспектывы роднага горада), вакол былога кіраўніка адразу распачаліся роіцца чуткі і плёткі, зразумела, негатыўнага характару — не будзем іх тут паўтараць, як гаворыцца, горад ведае пра што гаворка. Яны так і засталіся чуткамі, але пэўны час мелі пад сабой той трывалы грунт, што даволі доўгі час былы старшыня гарвыканкама заставаўся без працы. Нарэшце, ён быў прызначаны на вакантную пасаду кіраўніка мясцовага ўпраўлення дзяржаўнага Фонда сацыяльнай абароны па Магілёўскай вобласці.

Але хутка чуткі вакол “апалы” Віктара Шорыкава аднавіліся. Больш за тое, да іх дадаўся і пэўны “палітычны матыў” – нехта ўспомніў, што сп. Шорыкаў быў адным з пачынальнікаў вядомай апазіцыйнай партыі, а менавіта — Аб’яднанай грамадзянскай на чале з Лябедзькам і Багданкевічам. Паралельна людзі ўспаміналі, што ніяк не развяжыцца заведзеная, яшчэ ў шорыкаўскую бытнасць, крымінальная справа супраць былога кіраўніка Адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Магілёва, які і быў прызначаны і працаваў доўгі час менавіта пры Віктары Шорыкаве.




Насамрэч жа рэч, як відавочна, ціхая “пенсіянерская прыстань” на пасадзе кіраўніка некалькіх сацыяльных “столаначальнікаў” не спадабалася самому Віктару Шорыкаву, які застаецца чалавекам, поўным сіл і актыўнасці. Ну, і канешне ж – сувязяў (бо куды ж у нас без іх)…

А вось што сапраўды здівіла магілёўцаў, так гэта тое, што Віктару Шорыкаву ў ягоным працаўладкаванні не прыдаліся кантакты і сувязі “расейска-пабрацімскія”. А спрацавалі флюіды з іншага боку, хоць і суседскага, але амаль што, як паслухаць беларускіх афіцыйных “палітычных аглядальнікаў і паглядзець палітычныя ж праекты БТ, ледзь не з варожага боку. Штотыднёвік *“Ежедневник”* знайшоў былога “вертыкальшчыка” на пасадзе аднаго з намеснікаў дырэктара літоўскай кампаніі “ВГМ Індустры”, з якой магілёўскія ўлады ў рамках Свабоднай эканамічнай зоны (СЭЗ) падпісалі кантракт ужо пасля Віктара Шорыкава, а менавіта ў 2011 годзе. Таму знаўцы тэмы лічаць, што ў дадзеным выпадку спрацавалі не шорыкаўскія літоўскія кантакты і сувязі, а разлік літоўскіх калегаў на шорыкаўскія беларускія кантакты і сувязі. Адзначым, што літоўскіх кампаньёнаў у нас цікавяць лес і драўніна, бо гаворка ідзе ў асноўным пра мэблевую вытворчасць. Наколькі ў гэтай “лясной сферы” абазнаны і моцны былы гарадскі начальнік нам сказаць цяжка, але, відаць, яму ўдалося пацвердзіць літоўскім партнерам сваё дзелавое рэнамэ.

… Толькі і застаецца паўтарыць — куды ж у нас без сувязяў?! Але і шорыкаўскі досвед кіравання як раней заводам у Магілёве, а потым і ўсім горадам, скідваць з увагі не след. Ну, а пра вынікі працы на новым месцы хутка дазнаемся (як пачнем пераседжвацца на літоўскую мэблю, маючы, праўда, і сваёй, беларускай, у самым што ні на ёсць шыкоўным і поўным выбары).

***Барыс Барысаў***

## Фермеры Магілёўшчыны ашукалі дзяржаву на 2,7 млн доляраў

Яны набывалі ўгнаенні па ўнутрырэспубліканскіх коштах, а пасля прадавалі іх у Расію.

Аб гэтым паведаміў начальнік Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі крымінальнай міліцыі МУС нашай краіны Эдуард Нікіцін:

“Нашы падраздзяленні звярнулі ўвагу на тое, што занадта шмат мінеральных угнаенняў ідзе ў фермерскія і сялянскія гаспадаркі Магілёўскай вобласці. Высветлілася, што ў асобных гэтых гаспадарках нават няма зямлі. А мінеральныя ўгнаенні ідуць тысячамі тон”.

Паводле яго слоў, на ўнутраны рынак гэтыя ўгнаенні адпускаюцца па 30 доляраў, а на знешні — па 300. Было высветлена, што толькі гэтыя фермерскія гаспадаркі атрымалі на 6170 тон калійных угнаенняў больш, чым прадугледжана адпаведнымі нарматывамі.

***euroradio.fm***

# Дакіраваліс



Па дадзеных Галоўнага статыстычнага упраўлення Магілёўскай вобласці, у параўнанні з папярэднім годам назіраецца памяншэнне пагалоўя ўсіх выглядаў жывёлы і птушкі ў гаспадарках насельніцтва вобласці. У прыватнасці, колькасць буйнай рагатай жывёлы ў гаспадарках насельніцтва скарацілася на 17,3%, у тым ліку кароў - на 15,5%, свінняў - на 4,6%.

На 1 студзеня 2012 г. у вобласці налічвалася 116,8 тыс. хатніх гаспадарак у сельскай мясцовасці. У параўнанні з папярэднім годам іх лік паменшыўся на 2,2%. Больш палова хатніх гаспадарак не ўтрымоўвалі якіх-небудзь відаў жывёлы.

За апошняя дзесяцігоддзе і ў нашым Бялыніцкім раёне пагалоўе жывёлы ў гаспадарках насельніцтва скарацілась у тры разы. Між тым, колькі разнастайных рашэнняў і праграм прымалі нашы родныя чыноўнікі аб патрымцы асабістых гаспадарак вяскоўцаў, колькі папсавалі паперы, а вынікі бачны няўзброеным вокам. Што казаць,калі ў маёй роднай вёсцы Вялікая Машчаніца толькі за мінулы год колькасць тых жа кароў у вяскоўцаў зменшывалась практычна ў два разы. І чыннік тут самы просты – які дурань будзе ўтрымліваць хатнюю жывёлу, калі гэта не прыносіць прыбытку. Працы каля хатняй жывёлы шмат, а даходаў ад рэалізацыі прадукцыі, - кот наплакаў. Колькі каштуюць тыя ж ліманад з мінералкай і за якія капейкі селянін прадае дзяржаве малако...

Таму сяляне не звяртаюць увагі на "мудрыя" рашэнні чыноўнікаў і проста перастаюць утрымліваць хатнюю жывёлу.

***Барыс Вырвіч***

## Сразу двоих валютчиков задержали в Могилеве



Оба мужчины занимались незаконной предпринимательской деятельностью, связанной с куплей-продажей валюты, за что и попали в поле зрения правоохранителей. 11 марта управление Следственного Комитета по Могилевской области возбудило 2 уголовных дела.

Так, 24-летний неработающий местный житель только с июня 2011-го по февраль 2012-го обогатился в результате незаконных операций на сумму более чем в Br118 млн. Вчера в отношении него было возбуждено уголовное дело по статье «Незаконная предпринимательская деятельность», сообщила корреспондент отделения информации и общественных связей УВД Могилевского облисполкома Алина Грибанова.

Еще один валютчик — 42-летний могилевчанин — занимался незаконным обменом иностранных денег с сентября прошлого года по февраль текущего и рассчитывал получить доход на сумму более Br250 млн. В отношении него возбуждено уголовное дело по статье «Покушение на осуществление незаконной предпринимательской деятельности».

Обоим валютчикам грозит до 5 лет лишения свободы.

## Выбараў пакуль няма, а назіральнікі ўсё адно будуць

Кампанія "За справядлівыя выбары" мае намер падрыхтаваць 450 назіральнікаў у Магілёўскай вобласці.

Пра гэта паведамілі кіраўнікі кампаніі Сяргей Калякін і Віктар Карняенка падчас сустэчы з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый і палітычных партый у Магілёве.

Падчас выбараў у парламент у магілёўскай вобласці кампаніяй плануецца падрыхтаваць не меней за 450 назіральнікаў, а таксама каля 250 сябраў выбарчых камісій. Па ўсёй Беларусі кампанія плануе вылучыць у склад выбарчых камісій 1500 чалавек і падрыхтаваць не меней за 3000 назіральнікаў.

Усе назіральнікі будуць удзельнічаць у кароткатэрміновым назіранні.

Лідары магілёўскіх палітычных арганізацый дамовіліся аб сумеснай працы па назіранні за выбарамі. Ад станоўчага рашэння далучыцца да працэсу назірання ў межах кампаніі "За справядлівыя выбары" устрымаўся толькі кіраўнік абласной арганізацыі БНФ Зміцер Салаўёў. Усе астатнія 12 суб'ектаў магілёўскай палітыкі выказалі згоду.

Каардынатарамі кампаніі па назіранні за парламенцкімі выбарамі ў Магілёўскай вобласці абраны прадстаўнікі незалежных прафсаюзаў Юрый Новікаў і Галіна Лісіцына.

Плануецца, што кампанія "За справядлівыя выбары" будзе актыўна супрацоўнічаць з іншымі арганізацыямі, якія сваімі сіламі будуць здзяйсняць назіранне за выбарамі. На надыходзячых парламенцкіх выбарах, якія мусяць адбыцца ў верасні гэтага года, арганізацыя "Рух за свабоду" плануе самастойна падрыхтаваць 500 назіральнікаў. Сваю кампанію назірання будуць ажыццяўляць таксама праваабарончы цэнтр "Вясна" і "Беларускі Хельсінкскі Камітэт".

Сяргей Калякін таксама адзначыў, што працэс назірання за выбарамі будзе праходзіць незалежна ад таго, будуць дэмакратычныя кандыдаты байкатаваць выбары альбо не.

***http://mahilyowspring.org***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Адрас рэдакцыі: Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 14.03. 2012 г. у 16-00.